Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Прафэсыянальнага Саюзу Работнікаў Дзяржаўных Устаноў Беларусі.

№ 3 | Лістапад 1931 г. | № 3



## ЗЬМЕСТ





Выданьне ЦП Саюзу Дзяржустаноў Беларусі 1931 г.
г. Менск.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## па дакладу „Аб папярэдніх выніках перабудовы профработы на аснове пастаноў V-га Пленуму УсеЦСПС“.

1. V-ты Пленум УсеЦСПС, І-шы Усебеларускі і Усесаюзны Зьезды СРДУ паставілі ва увесь рост перад профарганізацыямі задачу караной перабудовы профсаюзнай работы „тварам да вытворчасьці“, перанясеньня цэнтру яе цяжару ў нізавыя зьвеньні і пагалоўнага ўцягненьня саюзнае масы ў работу саюзу, на аснове шырачайшага разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва, ў поўнай адпаведнасьці з запатрабаваньнямі і задачамі сучаснага пэрыяду сацыялістычнага будаўніцтва.

2. Пленум канстатуе, што ў шэрагу профарганізацый саюзу (Менск, Ворша, Рэчыца і г. д.) маецца некаторы перапом у справе перабудовы профработы арганізаваны першчныя профзьвеньні, пры МК створан добраахвотніцкі актыў (Дзяржплян — 69 добраахвотнікаў, СНК—21, Аршанскі РМК—25 і г. д.,) што садзейнічала справе мабілізацыі сяброў саюзу на практычны ўдзел у чарговых, гаспадарча-палітычных кампаніях, палепшаньню вытворча-апэрацыйнай работы устаноў і далейшаму разгортваньню соцспаборніцтва і ўдарніцтва (перавыкананьне апэрат. пляну на 22%, правядзеньне вытворчых манэўраў, арганізацыя новых ударных брыгад у Дзяржпляне, паскарэньне на 50% тэрміну разгляду судовых спраў у НКЮ і г. д.).

Разам з тым Пленум з усей катэгарычнасьцю канстатуе, што большасьць арганізацый, яшчэ да гэтага часу сваей работы канчаткова не перабудавалі, і што ў выніку безадказных апартуністычных адносін да работы, стаўкі на самацек, арыентацыі на „аб'ектыўныя“ умовы, паўнейшай абязьлічкі ў працы, адсутнасьці адказнасьці за даручаную работу, праверкі выкананьня дырэктыў вышэйшых органаў і сваіх пастаноў, адсутнасьці да гэтага часу вакол профарганізацый добраахвотніцкага актыву—работа часткі РМК саюзу зусім нездавальняюча і патрабуе самага рашучага і тэрміновага пералому.

Пленум ЦП СРДУ пастанаўляе

1). Прапанаваць Прэзыдыуму ЦП, ГМК, РМК і МК саюзу ў працягу месячнага тэрміну (да 15/IX) закончыць канчатковую арганізацыйную перабудову профсеткі саюзу (профупаўнаважаныя, групоргі, сельпрофупаўнаважаныя і г. д.), арганічна ўвязаўшы гэтую работу з шырачайшай палітыка-масавай працай па каранной перабудове форм і мэтадаў

работы профарганізацый на аснове пастаноў ЦК і ЦП Саюзу

2). ГМК і РМК безадкладна прыступіць да арганізацыі адміністрацыйных сэкцый (у г.г. Гомелі, Віцебску, Магілеве, Воршы, Бабруйску, Мозыры, Полацку,) пры РМК, у той жа час забясьпечыўшы хутчэйшую перабудову профарганізацый у ворганах АДПУ, Міліцыі і Выпраўдамох, на аснове пастаноў І-й Усебеларускай канфэрэнцыі работнікаў адм. устаноў. Работу па перабудове арганізацыі адм. сэкцыі скончыць да 15/IX г/г, забясьпечыўшы ва ўсей далейшай працы з боку РК і РМК сыстэматычнае, штодзеннае кіраўніцтва і дапамогу профарганізацыям адміністрацыйных устаноў, цалкам увязанае і узгодненае з камандаваньнем і палітапаратам гэтых устаноў.

3). У сувязі з передачай РМК ГМК кіраўніцтва профарганізацыямі адміністрацыйных устаноў (АДПУ, АДТПУ, Міліцыі, Выпраўдамоў) і улічваючы вялікі колькасны склад профарганізацый (звыш 500 сяброў саюзу)—рэарганізаваць да 15/IX Гомельскі, Віцебскі, Магілеўскі, Бабруйскі, Аршанскі, Мазырскі, Полацкі, Гор. і Раймясцкомы ў Райкомы. Разам з гэтым лічыць неабходным увесьці ў Райкомах па адной аслабаненай, альбо паўплатнай адзінцы. Дару-чыць Прэзыдыуму ЦП практычна разьвязаць гэта пытаньне ў працягу аднаго месяцу.

4) Катэгарычна прапанаваць РК, РМК, безагаворачна прыступіць да тэрміновай арганізацыі (да 25/IX) вясковай профсаюзнай сеткі (сельпрофупанаважаныя).

Улічвая слабую насычанасьць сельсаветаў сябрамі саюзу (1—2—3—у адным сельсавеце), прапанаваць праводзіць куставаньне (аб'яднаньне) мяжуючых сельсавэтаў у радыусе да 10 кілёмэтраў, абіраючы ад іх сельпрофупаўнаважаных (пры наліччы 10 і звыш сябраў саюзу—селькомы РДУ), абіраючы цэнтрам кусту сельсавет, у якім маецца партыйная альбо камсамольская арганізацыя, хатачытальня, клюб і г. д.

5) Правесьці шырокую масавую работу па ўцягненьню ў шэрагі саюзу ўсіх маючых права быць прынятымі, паставіўшы сабе задачай у асноўным 100% ахоп саюзным членствам да новага году, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на найбольш адстаючыя вучасткі ў гэтай галіне—работнікаў сельсаветаў і ворганаў міліцыі.

Разам з тым у месячны тэрмін правесьці перавод у саюз РДУ сяброў іншых саюзаў, працуючых у дзяржапараце (за выключэньнем працуючых па выбару і вылучэньню, маючых права, пры жаданьні застацца ў сваіх саюзах, што ня выключае неабходнасьці поўнага абслугоўваньня іх нараўне з усімі астатнімі сябрамі саюзу).

6) Паставіць аднэй з неадкладных задач РК, РМК, МК стварэньне вакол профарганізацый шырокага добраахвотніцкага актыву, ўцягваючы яго у штодзённую сыстэматычную работу, устанавіўшы праверку выкананьня і пэрсанальную адказнасьць і пэрыядычную справаздачнасьць кожнага добраахвотніка за даручаную яму работу.

Устанавіць як правіла папярэднюю прапрацоўку пытаньняў, абгаварваемых на МК, РМК, ці РК у сэктары з актывам.

7) Шырока практыкаваць у рабоце вопыт грамадзкага буксіру і вылучэньне „брыгад дапамогі“ для аказаньня практычнай дапамогі адстаючым МК і профупаўнаважаным у рабоце, тым самым пераносячы лепшыя вопыты і дасягненьні у рабоце на адсталыя вучасткі

8) Даручыць РК, РМК і МК у дэкадны тэрмін прапрацаваць пастановы II-га Пленуму ЦК („Наша Газэта“ ад 11/VIII, 6/VIII) і II-га Пленуму ЦП, дасканала прапрацаваўшы вынікі і пастановы Пленумаў на паседжаньнях, нарадах актыву і агульных сходах—распрацаваўшы канкрэтныя, каляндарныя тэрміны выкананьня пастаноў Пленумаў ва ўмовах сваіх калектываў.

9) Прапанаваць Прэзыдыуму ЦП узмацніць жывое канкрэтнае кіраўніцтва нізавымі профарганізацыямі, забясьпечыўшы ім актыўную дапамогу, як [illegible] канчатковай перабудове проф[illegible] работы, гэтак і ва ўсей рабо[illegible] саюзу.

Разам з тым лічыць абса[illegible]лютна неабходным, як па лін[illegible] ЦП, гэтак і асабліва па лін[illegible] РК, РМК і МК скарыстаньне ўсіх выездаў сяброў саюзу [illegible] камандыроўкі ў раёны і вёск[illegible] для выкананьня імі канкрэт[illegible]ных пэрсанальных заданьняў па профрабоце, арганізаваўшы чоткую і сваечасовую справаздачнасьць камандыруемых за даручаную работу.

10) Улічваючы вастрэйшы недахоп кадраў профработнікаў і поўнасьцю ухваляючы наметкі ЦП па іх падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы—прапанаваць усім арганізацыям саюза безагаворачна забясьпечыць 100% і сваечасовае укамплектаваньне профгурткоў, іх бе[illegible]перабойную работу, а таксама сваечасовае вызначэньне кандыдатур з ліку лепшага профактыву ў прафшколы і курсы па развёрсткам ЦП.

11) Канстатуючы абсалютна нездавальняючае становішча інфармацыі і статыстыкі, по[illegible]нае ігнарыраваньне гэтых работ з боку болшасьці профарганізацый, катэгарычна прапанаваць РК, РМК і МК сваечасова і канкрэтна інфарміраваць ЦП аб становішчы работы, сыгналізуючы перад ім аб недахопах, цяжкасьцях і прарывах [illegible] рабоце, як шляхам афіцыйных і статыстычных вестак, гэта[illegible]

таварыскіх лістоў. Пленум азам з тым ускладае на кожага сябра Пленуму паасобку бавязак трымаць сыстэматычую інфармацыйную сувязь з рэзыдыумам ЦП.

Пленум прапануе ЦП жорст- рэагаваць на ігнарыраваньне РМК і РК, прапаноў ЦП інфармацыі і статыстыцы і сцэньваць яго як бязьдзейсьць па пытаньням, якія па- абуецца асьвятляць у інфарцыі.

Пленум даручае ўсім МК, К, РК вызначыць сталага арыша, адказнага за сваеовую інфармацыю.

2) Канстатуючы з боку шэу профарганізацый РДУ апушчальныя адносіны да ансавых спраў (нескладань- каштарысаў, зацяжка з пеылкай грошай ЦК, нерэгунасьць збору ўзносаў і г. д.) поўнай бязьдзейнасьці ў цы РМК рэвізыйных кай—Пленум даручае ЦП ці бязьлітасную барацьбу дбайнясьцю РМК і МК у ве патрэбнай пастаноўкі нсавай работы, прыцягы да суровай адказнасьці м з РМК, МК таксама і ыйныя камісіі і патрабуюоткага і сваечаеовага выньня ад усіх профарганіій грашовых абавязацельу перад ЦК СРДУ і сваіляктывамі.

) Падкрэсьліваючы з усей сьцю, што становішча дысцыпліны сярод часткі сяброў саюзу ўсе яшчэ надзвычайна нездавальняючае (неяўка на сходы, нарады, невыкананьне ўскладзеных абавязкаў, ухіленьне ад нагрузкі і г. д.) Пленум абавязвае Прэзыдыум ЦП і ўсе нізавыя арганізацыі павесьці бязьлітасную барацьбу з кожнымі канкрэтнымі выпадкамі недысцыплінаванасьці і ўхіленьнямі ад грам. работы—як з праявамі, ганьбуючымі саюзную арганізацыю, разгарнуўшы шырокую масавую выхаваўчую работу вакол гэтага пытаньня і канкрэтных асоб (грам. суд, чорная дошка, насьценгазэта, плякаты, пастаноўка пытаньня на сходах, паседжаньнях), не супыняючыся перад выключэньнем з саюзу асоб злосна і сыстэматычна ухіляючыхся ад работы і сваей нядысцыплінаванасьцю падрываючых работу Профарганізацыі.

Разам з тым Пленум даручае Прэзыдыуму ЦП весьці самую рашучую барацьбу з праявамі безадказнасьці, апартуністычнай бязьдзейнасьці, стаўкай на самацёк з боку паасобных МК, распушчаючы іх, зьнімаючы з работы кіраўнікоў і нават не спыняючыся перад пастноўкай пытаньня аб далейшым застаўленьні апошніх у шэрагах саюзу.

14) Паставіць абавязковай задачай усіх профарганізацый, дасканалую, чоткую пастаноўку праверкі выкананьня сваіх пастаноў і дырэктыў вышэй-

шых ворганаў і пэрсанальную за іх адказнасьць, практыкуючы штомесячнае падагуленьне гэтай работы, забясьпечваючы поўнае безагаворачнае выкананьне дырэктыў.

15) Пленум абавязвае ўсе профарганізацыі ў ва ўсей рабоце па перабудове профработы забясьпечыць шырокае разгортваньне соц. спаборніцтва і ўдарніцтва, чоткую праверку выкананьня абавязкаў па соц. дагаварам, падпарадкаваўшы ўсю профработу асноўным задачам саюзу: барацьбе за ўздым дзяржапарату на вышыню задач першага перыяду сацыялізму, са скажэньнямі і бюракратызмам у рабоце апарату, за ўзмацненьне пралетарскага масавага кантролю над яго работай, за значнае узьняцьце палітычнага ўзроўню саюзнае масы, за актыўны непасрэдны ўдзел саюзу у ва ўсіх гаспадарча - палітычных задачах, пастаўленых камуністычнай партыяй і ўрадам.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## II-га Пленуму ЦП Саюзу Дзяржустаноў Беларусі па дакладу „Аб удзелу саюзу ў бягучых гаспадарча-палітычных кампаніях"

Канстатуючы, што палітмасавая работа саюзу вакол чарговых гаспадарча-палітычных задач мае некаторыя дасягненьні (рэалізацыя пазыкі на 103% месячнага заработку, адпрацоўка у прыгарадных гаспадарках звыш 5000 працдзён, нарыхтоўка сіламі сяброў саюзу звыш 3000 кубмэтраў дроў, мабілізацыя ў калгасы на 1½ м-цы 100 сяброў саюзу і г. д., Пленум ЦП расшуча падкрэсьлівае, што усе-ж гэта работа, ў асаблівасьці на вёсцы зьяўляецца нездавальняючай.

У мэтах бязумоўага выкананьня бальшавіцкімі тэмпамі задач, пастаўленых перад саюзам пастановамі XVI Партзьезду, Пленумаў ЦК УсеКП і ЦКК, а таксама апошняга Пленуму ЦК СРДУ пастанаўляе:

1. Усім арганізацыям саюзу разгарнуць шырокую масавую працу па праверцы выкананьня кантрольных лічбаў пляну 3-га рашаючага году пяцігодкі і аказаньня практычнай дапамогі плянавым ворганам у рабоце па складаньню народна-гаспадарчых і апэрацыйных пляяў другой пяцігодкі і чацьвертага апошняга году першай пяцігодкі, высоўваючы сустрэчныя пляны.

2. Канстатуючы, што большасьцю арганізацый саюзу не прапрацаваны выступленьні т. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў і шэраг іншых важ

нейшых палітычных дакумантаў (пастанова аб перабудове коопэрацыі, аб вырашэньні жыаёлагададоўчай праблемы, аб дальнейшых тэмпах калектывізацыі і г. д.) прапанаваць усім профарганізацыям безадкладна прапрацаваць гэтыя пастановы і дакументы, у далейшым забясьпечваючы своечасовую прапрацоўку і давядзеньне іх да кожнага сябра саюзу з адначасовай распрацоўкай канкрэтных мерапрыёмстваў па рэалізацыі гэтых пастаноў у умовах свайго калектыву.

3. Рашуча падкрэсьліваючы, што праца прафсаюзных арганізацый РДУ на вёсцы разгорнута зусім слаба, катагарычна прапанаваць МК, РМК, ГМК зьвярнуць на гэту работу асаблівую ўвагу, забясьпечыўшы уздым яе на патрэбную вышыню. Асноўную ўвагу на ўвесь бліжэйшы пэрыяд сканцэнтраваць на пытаньнях арганізацыі ўзорнага шэфства над вёскамі і калгасамі, масавае правядзеньне бягучых гаспадарча-палітычных задач у вёсцы, мабілізуючы сіламі саюзу на іх правядзеньне шырокія масы калгасьнікаў і адзінаасобнікаў беднякоў і серадвякоў. Пленум абавязвае ЦП забясьпечыць сапраўды ўзорную пастаноўку шэфработы на вёсцы ня меней, як у 20 РМК з пасьледуючым перанесеньнем вопыту гэтай работы на ўсе астатнія арганізацыі саюзу.

4. Адной з асноўных задач саюзу паставіць далейшае замацаваньне калгасаў, шляхам дапамогі ў арганізацыі працы, пастаноўцы вучоту і справаздачнасьці, выдачы трудкніжак, ліквідацыі абязьлічкі, бязьлітаснай барацьбы з ураўнілаўкай, дапамагаючы калгасам перайсьці на сапраўдную зьдзельшчыну і ў разьмяркаваньні ураджаю, тым самым садзейнічаючы вырашэньню асноўнай задачы далейшай калектывізацыі краіны і поўнай ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

Пленум даручае Прэзыдыуму дабіцца поўнага выкананьня мабілізацыі ў калгасы на 1½ месяца 120 сябраў саюзу.

5. У справе рэалізацыі пазыкі 3-га рашаючага году пяцігодкі—профарганізацыям саюзу пераключыцца на баявое разьмяшчэньне пазыкі на вёсцы сярод калгасьнікаў і адзінаасобнікаў, разам з тым не паслабляючы работы па поўнаму выкананьню агульных пляноў мабілізацыі фінсродкаў—страхоўка, сель. гасп. падатак, рэалізацыя акцый Трактарацэнтру і г. д., забясьпечыўшы бязумоўнае выкананьне кантрольных лічбаў мабілізацыі фінрэсурсаў.

6. Адзначаючы, што у справе правядзеньня вясновай сяўбы і праполкі праца саюзных арганізацый была нездавальняючай, а ў шэрагу мейсц зусім

слабай—прапанаваць усім МК, РМК і ГМК забясьпечыць выкананьне ранейшых дырэктыў ЦП Саюзу аб аказаньні працоўнай дапамогі калгасам і прыгарадным гаспадаркам ня меней 5 дзён на кожнага сябра саюзу і мабілізацыі пагалоўна усей саюзнай арганізацыі вакол практычнай дапамогі уборцы ураджаю і вясеньняй сяўбы 1932 г.

7. Прапанаваць усім арганізацыям саюзу разгарнуць шырокую масавую работу вакол рэалізацыі рашэньняў ЦК УсеКП і ЦК КПБ аб хлебанарыхтоўках аказваючы практычную дапамогу хлебанарыхтоўчым арганізацыям і ссыпным пунктам у рабоце. Пленум абавязвае кожны РМК вызначыць ня менш аднэй брыгады для сталай работы па хлебанарыхтоўкам (арганізацыя чырвонага абозу, дапамога па вучоту і выпісцы дакумантаў на ссыпных пунктах і г. д.).

8. Прыдаючы асабліва важнае палітычнае значэньне справе арганізацыі адыходніцтва калгасьнікаў у прамысловасьці і баявое правядзеньне Сталінскага закліку калгасьнікаў—прапанаваць усім арганізацыям саюзу бездакладна ўключыцца ў правядзняне месячніку, абвешчанага ЦК СРДУ па растлумачэньню калгасьнікам і адзінаасобнікам закону аб ільготах, якія прадстаўляюцца адыходнікам, а таксама ў канкрэтную работу па садзейнічаньню ворганам працы па практычнай арганізацыі адыходніцтва.

9. Канстатуючы зусім нездавальняючую пастаноўку работы па рабочаму шэфству і ўнядрэньню ў дзяржапарат соцсаўмясьціцельства — прапанаваць МК, ГМК ва ўсей сваей масавай рабоце забясьпечыць мабілізацыю грамадзкай думкі саюзнай масы вакол гэтых важнейшых пытаньняў, дабіўшыся каб кожная ўстанова мела шэфа-прадпрыемства, МТС, ці саўгас; стварэньня для шэфработы неабходных максымальна-спрыяючых умоў; дзейнасьці і апэратыўнасьці шэфработы ў справе арганізацыі масавага рабочага кантролю над работай установ і канкрэтнага ўцягненьня рабочых мас ў практычную адказную работу ў дзяржапараце.

10. У мэтах устанаўленьня арганічнай сувязі спэцыялістых дзяржапарату непасрэдна з прадпрыемствамі, дапамогі апошнім у праверцы і складаньні прамфінплянаў, кансультацыі пры рэалізацыі рабочых прапаноў, афармленьні прапаноў па сустрэчнаму пляну даручыць ЦП праз адпаведныя профарганізацыі прымацаваць спэцыялістых дзяржустаноў для грамадзкай работы на прадпрыемствах, абагульваючы і пераносячы лепшы вопыт гэтай работы.

11. Прапанаваць усім арганізацыям Саюзу разгарнуць шырокую сыстэматычную работу вакол працы вытворча-экана-

мічных нарад установ, дабіваючыся значнага палепшаньня іх работы, разам з тым зьвярнуць максымальную ўвагу на пытаньні рацыяналізатарскай работы, збор і своечасовую рэалізацыю прапаноў, накіраваных на спрашчэньне, патаненьне і рацыяналізацыю апарату, ўцягваючы ў гэту работу шэфбрыгады прадпрыемстваў і ўсю масу працаўнікоў апарату.

12. Адзначаючы, што клюбы і чырвоныя куткі працы яшчэ не перабудавалі і не адбіваюць у сваей рабоце правядзеньне гаспадарча-палітычных кампаній, не мабілізуючы вакол іх саюзнай масы, прапанаваць саюзным арганізацыям перабудаваць работу клюбаў і чырвоных куткоў, шляхам арганізацыі культпалітсаветаў, складаньня плянаў работы правядзеньня культурна-палітычнай работы па падняцьцю палітычнай сьвядомасьці сяброў саюзу, арганізуючы гурткі бягучай палітыкі, прафгурткі і інш., адбіваючы ва ўсей рабоце клюбаў і чырвоных куткоў выкананьне палітчна-гаспадарчых задач, апэрацыйна-гаспадарчых плянаў установы і агульных плянаў соцбудаўніцтва.

13. Канстатуючы, што сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў дзяржустановах да гэтага часу разгорнута нездавальняюча і адстае ад тэмпаў працы і задач, пастаўленых перад дзяржапаратам, што большасьць ніжавых саюзных арганізацый гэту працу не ставілі ў цэнтр увагі, спадзяючыся на самацёк, прапанаваць саюзным арганізацыям весьці рашучую барацьбу з апартуністычнай установкай на самацёк, паставіўшы гэтую работу ў цэнтр увагі, дабіцца 100% абхопу сяброў саюзу ўдарным рухам, штодзённай праверкі кантроля выкананьня соцдагавароў праз заслухоўваньне дакладаў паасобных ударнікаў, брыгадзіраў праверку брыгадным мэтадам выкананьня соцдагавароў, наладжваньне вучоту соцспаборніцтва, выпрацоўкі канкрэтных паказальнікаў ударнай працы паасобных працаўнікоў і інш., вядучы адначасова рашучую барацьбу з ілжэударніцтвам.

14. Адзначаючы некаторыя дасягненьні саюзных арганізацый РДУ справе ўзмацненьня беларусізацыі, канстатаваць, што інтэрнацыянальная работа ў агульным разгорнута недапушчальна слаба, у шэрагу выпадкаў нездавальняюча пастаўлена таксама і работа па беларусізацыі (фармальнае ўжываньне белмовы, правядзеньне работы ў кампанейскім парадку і г. д.)

Катэгарычна прапанаваць усім профарганізацыям РДУ паставіць інтэрнацыянальную работу і работу па беларусізацыі, як адну з важнейшых палітычных задач саюзу, вядучы бязьлітасную барацьбу з усялякімі скажэньнямі прынцыпаў Ленінскай нацпалітыкі і шавінізмам

уселякіх колераў, асабліва вялікадзяржаўным, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, контр-рэвалюцыйным дэмакратызмам і антысэмітызмам.

15. Прапанаваць усім арганізацыям саюзу разгарнуць шырокую работу вакол пасьпяховага выкананьня пляну па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, правядзеньня ўсеагульнага навучаньня, мабілізуючы сяброў саюзу на практычную працу па ліквідацыі няпісьменнасьці ў горадзе і вёсцы, дапамогіворганам НКА у правядзеньні ўсеагульнага навучаньня і палітэхнізацыі школ, забясьпечаньні школ падручнікамі, паставіўшы задачу—-ніводнага сябра саюзу і калгасьніка няпісьменнага і малапісьменнага.

Бліжэйшымі задачамі профарганізацый ў гэтай галіне паставіць дапамогу поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці ў сваім калектыве, сярод працаўнікоў міліцыі і ў падшэфным калгасе да 1/II-1932 г.

16. Адзначаючы, што тыраж падпіскі на „Нашу Газэту" упаў па саюзу на 1500 экз., што саюзныя арганізацыі не зьвяртаюць належнай увагі працы па ўнядрэньню газэт і сыстэматычнай працы з чытачамі. Пленум прапануя саюзным арганізацыям дабіцца падпіскі на "Нашу Газэту ня менш, як 12600 экз., разам з тым павялічыўшы падпіску на газэту „Праўда," „Зьвязда" і інш., праводзячы сыстэматычную работу з чытачамі праз склісканьне канфэрэнцый, абмеркаваньне паасобных пытаньняў і інш.

Побач з гэтм даручыць арганізацыям саюзу правесьці шырокую масавую работу вакол пытаньня рэарганізацыі „Нашае Газеты", ўвязаўшы яе з рашучым узьняцьцем тыражу.

17. Падкрэсьліваючы, што насьценны друк у ўстановах яшче далёка не адыгрывае сваей вялікай ролі арганізатара саюзнай масы на канкрэтнае палепшаньне работы апарату і барацьбы са скажэньнямі, прапанаваць усім арганізацыям РДУ канчаткова перабудаваць работу з насьцендрукам, ператварыўшы яго ў сапраўдны баявы ворган барацьбы са скажэньнямі ў апараце і арганізатарам мас вакол чарговых гаспадарча-палітычных задач і кампаній, забясьпечыўшы плянавую сыстэматычную работу са сьценкорамі, праламіўшы ў сваіх канкрэтных умовах пастановы II-га Усебеларускага Зьезду рабселькораў. Прэзыдыуму ЦП вывучыць і рэалізаваць пытаньне аб выпуску ў вялікіх калектывах шматтыражных газэт.

18. Канстатуючы тое, што праца па фізкультуры па саюзу разгорнута нездавальняюча, прапанаваць саюзным арганізацыям разгарнуць працу па арганізацыі гурткоў фізвыхуцягненьня ў іх сябраў саюзу, ўнядрэньне раняшняй зарадкі,

ва ўстановах, паставіўшы мэтай „Ніводнага раёну без калякктыву фізвыху“ падпарадкаваўшы усю фізкультработу правадзімым гаспадарча-палітычным і вытворчым задачам.

Прэзыдыуму ЦП забясьпечыць масавую практычную падрыхтоўку на мясцох да 1-й Усебеларускай канфэрэнцыі фізкультурнікаў саюзу РДУ.

19. Канстантуючы некаторы пералом у галіне культмасавай прафсаюзнай работы сярод Адмгрупы саюзу (Міліцыя, Выпраўдомы ДПУ), абавязаць усе саюзныя арганізацыі зьвярнуць максымум увагі на далейшае палепшаньне культмасавай работы сярод Адмгрупы, лепшае абслугоўваньне іх сыстэмай клюбаў і чырвоных куткоў саюзу, палепшаньне сацыяльна бытовых умоў дапамогі палітадзелам у правядзеньні важнейшых мерапрыёмстваў па перабудове міліцыі, мабілізацыі мас на пасьпяховае правядзеньне гаспадарча—палітычных кампаній, тым самым дапамагаючы ворганам міліцыі і выпраўдому канчаткова перабудоваць работу, адпаведна дырэктыў Партыі і Ураду.

20. Адзначаючы тое, што ў працы профарганізацый яшчэ да гэтага часу, як сярод паасобных сябраў саюзу (Гомель, Бабруйск, Барысаў і інш.), а таксама і МК існуе „абязьлічка“ і безадаказнасьць за даручаемую работу, Пленум катэгарычна прапануе саюзнай арганізацыі правесьці рашучую барацьбу з ліквідацыяй гэткай, прымаючы меры узьдзейнічаньня праз друк, чорную дошку, грамадзкі суд, нават не спыняючыся ў асобных выпадках сыстэматычнага нявыкананьня даручэньняў і баявых задач перад выключньнем з сябраў Саюзу, шырока разгортвая дзейную крытыку і самакрытыку вакол канкрэтных недахопаў і прарываў у працы саюзных арганізацый.

21. Усе гэтыя важнейшыя асноўныя задачы паліт. масавай работы, павінны стаць баявой, штодзённай плянавай работай МК, ГМК, РМК саюзу і на справе зьявіцца адным з галоўных шляхаў вырашэньня асноўнай задачы саюзу уздыму дзяржапарату на вышыню задач першага пэрыяду сацыялізму і няўхільнай барацьбы за гэнэральную лінію партыі.

## Першы вопыт пераводу Т. С. А. Дзяржпляну БССР на гасп. разрахунак

Перавод установы на гаспадарчы разрахунак пастаўлен у нас як першы вопыт у Беларусі і, зразумела, мае яшчэ ня зусім аформленую структуру, але ўжо першыя крокі, якія прыняты намі у гэтым напрамку, дастаткова яскрава

гаворачь аб магчымасьці і неабходнасьці пераводу ўстаноў, вядучых апэрацыйную работу на гаспадарчы разрахунак.

Функцыі Т. С. А. Дзяржпляну апрадзяляюцца галоўным чынам тэхнічнай распрацоўкай, як ручным, гэтак і мэханізіраваным спосабам усялякіх масавых статыстычных матар'ялаў Дзяжпляну і іншых цэнтральных устаноў, і бязумоўна, своечасовасьць выкананьня і якасьць распрацовак павінны стаяць на патрэбнай вышні, каб статыстыка сапраўдна служыла справе сацыялістычнага будаўніцтва народнай гаспадаркі і дзеля гэтага перавод ТСА на гаспадарчы разрахунак быў увязан з рэарганізацыяй яго па тыпу прадпрыемства—цэхавую сыстэму, разьбіваючы кожную работу на розныя апэрацыі і устанавіўшы конвеер распрацоўкі ад пачатку да канца.

З 1-га жніўня гэтая рэарганізацыя праведзена поўнасьцю і тут жа была пераведзена на гаспадарчы разрахунак.

Да 1-га жніўня былі заключаны дагавары з Дзяржплянам, НКЗ і некатарымі іншымі установамі на выкананьне работы, быў складзен плян работы на падставе заключаных дагавароў і плян гэты давядзен да цэха, а цяпер даводзіцца да кожнага работніка.

Т. С. А. разьбіта на 9 цэхаў, з якіх 5 цэхаў устанавілі цьвердыя нормы і перайшлі на зьдельную аплату, а астатнія 4 цэхі распрацоўваюць у сучасны момант нормы з тым, каб увесьці іх з 1-га верасьня.

Прынцып устанаўленьня норм быў розны:

а) Практычная выпрацоўка ў мінулым.

б) Прыраўніваньне да сходных работ.

в) Хронаметраж.

І патрэбна сказаць, што расцэнкі работ, пасьля ўвядзеньня зьдельшчыны далі рэзкае зьніжэньне, напрыклад, па распрацоўцы фактур для кравецкай фабрыкі „Акцябр," папярэдняя расцэнка складала 39 кап. за сотню, а за першыя два тыдні ўвядзеньня зьдзельшчыны, расцэнка панізілася да 25 кап. за сотню.

Акрамя таго трэба адзначыць, што якасьць распрацовак бязумоўна палепшылася, так як па першае якасьць уваходзіць у рахунак нормы (за кожную памылку адлічваецца ўстаноўленая колькасьць норм), і па другое, інструктар павінен пад асабістую адказнасьць адказваць за якасьць работы.

Зразумела, што ўсе паказаныя моманты патрабуюць большага ўдасканаленьня і далейшага упрачненьня з тым, каб гэты першы вопыт быў перакінут на іншыя савецкія ўстановы.

Магідаў.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## па дакладу дырэкцыі БАМС'у Дзяржпляну „Аб пераводзе установы на гаспадарчы разрахунак, зьдзельную форму оплаты і цэхавую вытворчую сыстэму"

1. Прэзыдыум ЦП СРДУ заслухаўшы даклад Дырэктара БАМС'у Дзяржпляну аб працы па пераводу установы на гаспадарчы разрахунак, здзельную норму аплаты і на цэхавую вытворчую сыстэму і садаклад Цэхпрофбюро аб прафэсыянальнай і масавай рабоце ў БАМС'е канстатуте, што Дырэкцыя і Цэхпрофбюро ў асноўным здолелі пасьпяхова перанесьці ў канкрэтныя ўмовы працы савецкай установы перадавы вопыт арганізацыі працы з прамысловасьці, праламіўшы яго ў спэцыфічных вытворчых умовах установы.

Прэзыдыум ЦП адзначае, што ў выніку гэтага ў рабоце БАМС'у маецца:

а) Павышэньне вытворчасьці працы (ліквідацыя ўсіх залежаў работы за ўвесь мінулы час, пры ўмове выкананьня заказаў, акрамя Дзяржпляну, для 8-мі цэнтральных устаноў НКЗем, НКФн, ф-ка „Кастрычнік," Інстытут Аховы Працы і г. д.).

б) Зьніжэньне сабекошту прадукцыі( 39 кап. да 2,5 кап. на сотню адзінак).

в) Зьніжэньне браку-памылковасьці ў распрацоўках (з 2,5% да 0,5%).

г) Зьнішчэньне абязьлічкі як па машынам, гэтак і ручным работам і давядзеньне апэрацыйнага пляну да кожнага работніка.

д) Паралельна здавальняючае разгортваньне грамадзкай працы ў установе і сацспаборніцтва (11 ударных брыгад, 127 ударнікаў з агульнай колькасьці 172 работ. і г. д.) з увязкай яго з вытворчымі задачамі ўстановы.

У мэтах складаньня максымальна спрыяючых умоў для далейшай работы і разгортваньня БАМС'у, замацаваньня вопытаў у далейшай рабоце пераняесеньня і асваеньня практыкі работы БАМС'у ў іншыя ўстановы, Прэзыдыум ЦП лічыць неабходным:

1) Настойліва паставіць пытаньне перад НК РСІ, Наркампрацы і ЦСПСБ аб рэарганізацыі БАМС'у ў аб'яднаную рахунковую фабрыку з перадачай ей статыстычных і вучотных работ і распрацовак ад усіх устаноў і буйнейшых прадпрыёмстваў, з адначасовай ліквідацыяй у гэтых органах самастойных статрасрацовак.

Прэзыдыум ЦП лічыць неабходным рэалізаваць гэта ме-

рапрыёмства ў працягу бліжэйшага месяцу па Менску і з новага бюджэтнага году—па Беларусі.

2). Дырэкцыі БАМС'у, сумесна з профарганізацяй устанавіць сыстэматычны кантроль над зьместам і мэтадалёгіяй распрацоўкі статыстычных матэр'ялаў пад пунктам погляду рашучага выпраўленьня і недапушчэньня рэцыдываў шкодніцкай практыкі работы мінулага ТСА, з поўным падпарадкаваньнем усей дзейнасьці БАМС'у задачам сацыялістычнага будаўніцтва краіны.

3). Дырэкцыі БАМС'у, сумесна з профарганізацыямі, тэрмінова прыступіць да прапрацоўкі і складаньня промфінпляну на 4-квартал 1931 г., а таксама складаньня кантрольных кропак промфінпляну 4-га году пяцігодкі.

4). Дырэкцыі БАМС'у забясьпечыць у тэрміновым парадку пераход на зьдзельныя формы аплаты астатнія два цэхі БАМС'у—падрыхтавальны і дробных работ.

5). МК Дзяржпляну і Цэхпрофбюро БАМС'у, сумесна з дырэкцыяй, зьвярнуць асаблівую ўвагу на работу вытворча-эканамічнай нарады па пытаньнях: далейшага ўдасканаленьня норм выпрацоўкі, удасканаленьня практыкі пераводу работы на зьдзельшчыну, далейшага зьніжэньня сабекошту прадукцыі, рацыяналізатарскай работы, збор і рэалізацыю прапаноў работнікаў, барацьбу з памылковасьцю, распрацоўку сустрэчных апэратыўных плянаў, у асаблівасьці па якасным пақазчыкам-забясьпечыўшы сапраўдны масавы ўдзел у гэтай рабоце ўсяго каляктуыву БАМС'у.

6). Дырэкцыі, сумесна з Наркампрацы перагледзець тарыфную сетку разрадаў пад кутком погляду зьмяншэньня колькасьці разрадаў і большай дыфэрэнцыяцыі ў аплаце па між разрадамі—ў мэтах канчатковай ліквідацыі ўраўнілаўкі ў аплаце труда.

7) Ухваляючы мерапрыемствы па арганізацыі конкурсу на лепшы цэх і лепшую брыгаду, Прэзыдыум ЦП прапануе скарыстаць яго для дальнейшага разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва, ў прыватнасьці, стварэньня скразных брыгад, а таксама для далейшага ўнядрэньня гаспадарчага разрахунку, павышэньня вытворчасьці працы і разгортваньня прафэсыянальнай і масавай работы.

МК забясьпечыць замацаваньне дасягненьняў конкурсу і перанясеньня іх на ўвесь далейшы час работы БАМС'у.

Соцбытсэктару ЦП дабіцца вызначэньня часткі дэфіцытных тавараў для прэміраваньня лепшых ударнікаў пасля конкурсу.

8) У мэтах падрыхтоўкі кадраў для БАМС'у лічыць мэта-

згодным арганізацыю пры ім брыгады вучнёўства. Сэктару вытворчасці і плянаваньня ЦП, сумесна з Наркампрацы і Дырэкцыяй БАМС'у, практычна рэалізаваць гэта пытаньне ў бліжэйшы месяц.

9). МК, сумесна з Дырэкцыяй, паставіць сабе задачай унядрэньне ў апарат БАМС'у да Кастрычнікавых сьвят 1931 г. ня меньш 10 соцнамесьнікаў на адказную работу з рабочых друкарні "Імя Сталіна". Разам з тым забясьпечыць максымальна-спрыяючыя умовы для сыстэматычнай работы шэфбрыгад друкарні, скарыстоўваючы іх для далейшага пераносеньня вопыту пастаноўкі работы прадпрыемств у установу.

10). Лічыць мэтазгодным перавесьці ручныя цэхі БАМС'у з непарыўнага на парыўны шасьціазенны вытворчы тыдзень з адзіным выхадным днём па 4, 10, 16, 22, 28 кожнага месяцу. Рэалізацыю гэтага мерапрыемства правесьці пасьля санкцыі з боку Урадавай Камісіі.

11). МК, сумесна з Дырэкцыяй і надалей весьці бязьлітасную барацьбу з цякучасьцю ў апараце, настроямі супраціўленьня да рэарганізацыі установы з боку часткі супрацоўнікаў, ствараючы вакол гэтага пытаньня шырокую грамадзкую думку і выкрываючы канкрэтных асоб, перашкаджаючых рэарганізацыі апарату. Разам з тым прафарганізацыям правесьці шырокую масавую работу па самазамацаваньню работнікаў за установай.

12). Соцбытсектару ЦП, праз ЦСПСБ, у дэкадны тэрмін вывучыць і прапрацаваць пытаньне аб аднясеньні работнікаў БАМС'у, працуючых на машынных працэсах, да катэгорыі рабочых у адносіне рабочага забясьпечэньня.

13). Для аказаньня дапамогі ў працы прафарганізацыям і Дырэкцыі, прымацаваць да БАМС'у сябра Прэзыдыуму ЦП т. Рэутовіча.

14). У мэтах папулярызацыі вопыту работы БАМС'у і перанясеньня яго у іншыя установы, лічыць неабходным:

а) Паставіць даклад Дырэкцыі БАМС'у на абгаварэньне Прэзыдыуму ЦК СРДУ і Прэзыдыуму ЦСПСБ, аб чым паставіць пытаньне перад паказанымі арганізацыямі.

б) Зьмясьціць кароткі нарыс Дырэктара БАМС"у аб вопыце рабаты, а таксама пастанову Прэзыдыуму ЦП, у чарговым нумары "Бюлетэня Саюзу".

в) Зьмясьціць шэраг артыкулаў аб працы БАМС'у у мясцовым друку. Выкананьне ўскласьці на т. т. Магідава, Чартока, Патапейка і Рэутовіча.

15). Прапанаваць МК Дзяржпляну і Цэхпрофбюро БАМС"у абгаварыць гэту пастанову Прэзыдыуму ЦП на чарговым агульным сходзе працоўнікоў БАМС'у.

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## Аб мяйсцовых камітэтах саюзу Работнікаў Дзяржустаноў.

### 1 Агульныя палажэньні.

§ 1. Для штодзеннага кіраўніцтва саюзнай работай у кожнай аб'яднаемай прафэсыянальным саюзам РДУ установе, з лікам працуючых сябраў саюзу ад 25 чал. і больш арганізуецца мясцовы камітэт работнікаў установы (мясцком). У установах, якія налічваюць менш 25 чал. сяброў саюзу абіраецца прафупаўнаважаны, які выконвае функцыі мясцовага камітэту.

УВАГА: У кожнай установе можа быць толькі адзін мясцком.

§ 2. Мясцовы камітэт работнікаў дзяржустаноў, зьяўляючыся органам прафэсыянальнага саюзу і прадстаўляючы аб'яднаемых работнікаў, праводзіць у ўстанове ўсю саюзную работу на падставе рашэньняў вышэйшых праф-саюзных органаў і агульнага сходу работнікаў установы, згодна гэтага палажэньня. У сваей дзейнасьці мясцком падпарадкаван і падсправаздачан вышэйстаячаму камітэту саюзу (ЦК, абласному, краявому, рэспубліканскому і гарадзкому) у сфэры дзейнасьці якога ён знаходзіцца, а таксама агульнаму сходу работ нікаў установы.

### II Задачы мясцовага камітэту.

§ 3. Асноўнымі задачамі мясцовага камітэту на данным этапе сацыялістычнага будаўніцтва нашай краіны і пасьпяховага выкананьня і перавыкананьня народнага гаспадарчага пляну зьяўляецца:

а) арганізацыя масы работнікаў аб'яднаемых мясцовым камітэтам на хутчэйшае і лепшае выкананьне вытворчых задач, якія стаяць перад дзяржустановамі і грамадзкімі установамі уваходзячымі у саюз РДУ.

б) Здавальненьне эканамічных інтарэсаў работнікаў сваей установы, іх культурных і бытавых патрэб і аховы працы.

в) Культурна-асьветная і палітыка-выхаваўчая праца сярод членаў саюзу і падняцьце іх вытворчай кваліфікацыі і ўладаньне тэхнікай.

З гэтай мэтай мясцовы камітэт:

а) Сумесна з адміністрацыяй сваей установы удзельнічае ў распрацоўцы пытаньняў, датычашчыхся арганізаацыі і работы сваей установы абмяркоўвае дзейнасць аб'яднаемай ім установы.

б) Ня ўмешваючысь у распараджэньня адміністрацыі і ня прымая на сябе ніякіх службова-адміністрацыйных функцый у адносіне да членаў саюзу, мясцком, шляхам арганізацыі ў установе масавай эканом-вытворчай работы, шырокага растулмачэньня аб'яд-

наемым работнікам задач, якія стаяць перад імі, мабілізацыяй іх на выкананьне гэтых задач, вазглаўляе творчаскую ініцыятыву работнікаў у справе рацыяналізацыі, палепшаньня, патаненьня апарату, барацьбы з бюрократызмам і скрыўленьнем клясавай лініі ў рабоце, аказвае садзейнічаньне адміністрацыі яго тэхнічнаму апарату, павялічэньня вытворчасьці працы, барацьбы з нарушэньнем працоўнай дысцыпліны, правядзеньня ў жыцьце правіл унутранага распарадку і г. д.

в) Садзейнічае арганізацыі рабочага шэфства над сваей установай, уцягвае масу членаў саюзу ў работу шэфскіх рабочых брыгад, дапамагае ўнядрэньню сацыялістычнага соцсумясьціцельства ў апараце сваей установы і арганізацыі членаў свайго саюзу, ў тым ліку спэцыялістых (інжынэры, эканамісты, плянавікі) для дапамогі заводу шэфу па выкананьню промфінпляну, арганізацыі сустрэчных, падняцьцю тэхнічных ведаў рабочых і г. д.

г) Аказвае дапамогу і падтрыманьне рабочым вылучэнцам, якія працуюць у установе, сачыць за правідловым іх выкарыстаньнем у апараце, садзейнічае яго тэорэтычнай падрыхтоўцы.

д) Аказвае дапамогу ў працы спэцыялістых, садзейнічае палепшаньню бытавых умоў, сачыць за правідловым выкарыстаньнем іх у апараце, садзейнічае далейшаму падвышэньню іх квалфікацыі.

е) Усю сваю працу па раганізацыі работы і выкананьні плянавых заданьняў у ўстанове, мейсцовы камітэт праводзіць мэтадамі камуністычных форм працы сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, прымяняя сыстэму прэміраваньня лепшых ударнікаў-перадавікоў за узорную працу, усяляк пашыраючы вынаходніцтва і рацыяналізатарскія прапановы аб'яднаемых работнікаў.

У частцы здавальненьня эканамічных, культурных і бытавых патрэб работнікаў мясцовы камітэт:

а) Абмяркоўвае ўмовы членаў саюзу.

б) актыўна ўдзельнічае ў заключэньні каляктыўнага дагавору, альбо тарыфнай згоды для сваей установы і сачыць за правядзеньнем у жыцьцё двухбакоых абавязацельстваў пры маемых на сябе па колумове, як аб'яднаемым мясцкомам работнікамі, так і адміністрацыяй.

УВАГА. У паасобных выпадках, рашэньнем вышэйстаячага камітэту саюзу (ЦК рэсп., обл. і краевога) мясцкому можа быць прадстаўлена права самастойнага заключэньня колдагавароў.

в) Сачыць за выкананьнем адміністрацыяй усіх норм па

ахове працы і сацыяльнай страхоўцы, сваечасовым унясеньнем страхавых узносаў, прадстаўнічае ў расцэначна-канфліктнай камісіі, сачыць за сваечасовасьцю выплаты зарплаты работнікам сваей установы.

г) Клапоціцца аб паляпшаньні ўмоў працы работнікаў, іх жыльлевых умоў, забясьпечаньні іх лячэбнай і санаторна-курортнай дапамогай, бытавымі ўстановамі (сталовыя, дзетсады, яслі, пляцоўкі, снабжэньне) арганізуе прыгарадную гаспадарку.

д) Арганізуе пры ўстанове клюб, чырвоныя куткі, гурткі, лекцыі, насьцен газэты і г. д., садзейнічае арганізацыі фізычнай культуры, распаўсюджаньні друку, ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменасьці.

е) Прымае меры да падняцьця вытворчых ведаў работнікаў, аўладаньні тэхнікай і павышэньня кваліфікацыі.

ж) Садзейнічае падгатоўцы кадраў для сваей установы і з гэтай мэтай садзейнічае кампектаваньню ВНУ, інстытутаў, тэхнікумаў і розных курсаў адпаведнымі кандыдатамі з ліку лепшых членаў саюзу.

з) Прымае непасрэдны ўдзел ва усіх культурных, масавых, палітычных мерапрыёмствах, праводзімых адпаведным камітэтам прафэсыянальнага саюзу.

і) Вядзе сярод аб'яднаемых работнікаў растлумачальную працу, датычачуюся задач прафэсыянальнага руху і ўсіх бягучых мерапрыёмстваў саюзу.

к) Уцягвае работнікаў установы ў члены саюзу і працягвае усіх членаў свайго аб'яднаньня да актыўнага ўдзелу ў рашэньні ўсіх пытаньняў саюзнай дзейнасьці.

л) Прыцягвае да выкананьня работы мяйсцовага камітэту актыў добраахвотнікаў, вядзе вучот працы актыву, садзейнічае прасоўваньню іх на грамадзкую і адміністрацыйна-гаспадарчую работу.

м) Праводзіць сярод аб'яднаемых ім членаў саюзу цьвёрдую саюзную дысцыпліну.

н) Арганізуе і праводзіць збор профсаюзных членскіх узносаў і сваечасовую перадачу іх вышэйшаму саюзнаму воргану.

о) Прадстаўнічае ва ўсіх дзяржаўных і іншых установах па пытаньням працы і быту сваіх членаў.

п) Арганізуе шырокую папулярызацыю і правядзеньне ў жыцьцё рашэньняў і заданьняў вышэйстаячых прафсаюзных ворганаў (УсеЦСПС і ЦК рэспубл. абластн. краяв. к-та саюзу).

§ 4 Свае заключэньні аб становішчы установы, аб неправільных дзеяньнях з боку адміністрацыі, а таксама узнікаючых на гэтай паставе непаразуменьнях, мясцком неадкладна даводзіць да ведама вышэйстаячага камітэаў саюзу.

## III. Парадак выбараў Мясцовага Камітэту.

§ 5. Мясцовы камітэт выбіраецца на агульным сходзе, а ў буйных установах, якія налічваюць больш 500 працоўных на канфэрэнцыі працоўных, прастой большсьцю галасоў, тэрмінам на 1 год. У члены мясцкому могуць абірацца толькі члены саюзу.

УВАГА: У выбарах мясцкому ня могуць удзельнічаць работнікі, якія ня маюць права быць членам саюзу.

§ 6. Па прапанове вышэйстаячага камітэту саюзу, а таксама па запатрабаваньням рэвізыйнай камісіі мясцкому, адобранаму камітэтам саюзу, альбо па запатрабаваньням, адной трэці работнікаў, якія карыстаюцца правам выбару, на вырашэньне агульнага сходу выносяць пытаньні аб датэрміновых перавыбарах мясцовага камітэту, альбо яго пасобных членаў.

§ 7. Колькасны склад мясцовага камітэту апрадзяляецца у залежнасьці ад колькасьці аб'яднаемых работнікаў па наступнай узорнай форме.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ад | 25 да | 50 — | 3 | чл. | 2 | канд. |
| „ | 50 „ | 100 — | 5 | „ | 2 | „ |
| „ | 100 „ | 250 — | 7 | „ | 3 | „ |
| „ | 250 „ | 500 — | 9 | „ | 4 | „ |
| „ | 500 „ | 1000 — | 11 | „ | 5 | „ |
| „ | 1000 „ | і больш | 13 | „ | 6 | „ |

Кандыдаты замяшчаюцца ў парадку чаргі выбываючых членаў мясцкому і нараўне з членамі мясцкому выконваюць вызначаныя функцыі ў мясцкоме.

§ 8. Аб назначэньні выбарнага сходу (альбо канфэрэнцыі) вышэйстаячы камітэт саюзу (ЦК обл. край, рэсп. і гар.), а таксама работнікі установы павінны быць паведомлены не пазьней як за 5 дзён. Выбары мясцовага камітэту вытвараюцца ў прысутнасьці прадстаўніка вышэйстаячага камітэту саюзу.

§ 9. Выбарны сход лічыцца сапраўдным, калі на ім прысутнічае ня менш паловы ўсіх работнікаў установы, якія карыстаюцца правам выбару. Пры адсутнасьці на першым сходзе (канфэрэнцыі) законнай колькасьці працуючых (кворуму) не раней сямі дзён склікаецца паўторны сход, правамоцны пры $^{1}/_{3}$ сабраўшыхся.

§ 10. Копія адпаведнага афармленага пратаколу выбарнага сходу і сьпісак абраных членаў мясцкому прадстаўляецца камітэту саюзу ў трохдзённы тэрмін з моманту выбараў.

УВАГА. У выпадку нарушэньня агульным сходам палажэньня аб выбарах мясцкому, вышэйстаячы камітэт саюзу мае права запрапанаваць агульнаму сходу вытварыць перавыбары мясцкому.

§ 11. Папярэдні склад мясцовага камітэту перадае сродкі

і справы ўноў абранаму складу не пазьней 3-х дзённага тэрміну, пры ўдзеле рэвізыйнай камісіі папярэдняга і новага складу.

Акт перадачы спраў і сродак захўваецца ў справах мясцкому, а копія яго перадаецца ў вышэйстаячы камітэт саюзу.

§ 12. Аб сваім абраньні і пачатку дзейнасьці мясцовы камітэт даводзіць да ведама адміністрацыі ўстановы.

## IV. Парадак дзейнасьці мясцовага камітэту.

§ 13. Для вядзеньня работы ў мясцкоме аслабаняюцца ад работы ў установе члены МК па наступнай прымернай форме:

ад 500 — 1500 — 1 работн.
— 1500 і вышэй — 2 „

УВАГА: Паасобныя зьмены і адхіленьні ад паказаных норм могуць быць дапушчаны з ведама і дазволу адпаведнага камітэту саюзу.

§ 14. Аслабаненьне членаў мясцкому ад работы ў установе вытвараецца адміністрацыяй на падставе пастановы мясцкому.

§ 15. Аслабаненым членам мясцкому гарантыруецца па сканчэньні іх выбарных паўнамоцтваў вазабнаўленьне іх работы у данай ўстанове, і прадпрыемстве на пасадзе ня менш папярэдня ім займаемай і адпаведна кваліфікацыі данага працаўніка.

§ 16. Звальненьне члена мясцкому, не аслабаненага ад аснаўной работы ў установе можа быць вытварана толькі з ведама і згоды саюзу.

§ 17. Аслабаняемыя для сталай працы ў мясцкоме члены МК аплачваюцца з сродкаў, атрымоўваемых мясцкомам ад адміністрацыі установы, па нормам устаноўленым належнымі саюзнымі і дзяржаўнымі ворганамі.

§ 18. Мясцком свае паседжаньні, як правіла, склікае ня менш разу ў дэкаду.

Экстрэнныя паседжаньні мясцкому склікаюцца старшыней і сакратаром па меры патрэбы, а таксама па запатрэбаваньню саюзу і рэвізыйнай камісіі мясцкому.

§ 19. Паседжаньні мясцкому вытвараюцца ў не працоўны час і лічацца сапраўднымі пры наліччы на менш паловы членаў мясцкому.

§ 20. Паседжаньні мясцкому вытвараюцца адкрыта. Аб часе паседжаньня і парадку дня работнікі ўстановы і актыў паведамляецца не пазьней як за 2 дні.

Прысутнічаючыя на паседжаньні мясцкому ня члены мясцкому карыстаюцца правам дарадчага голасу.

§ 21. Усе рашэньні на паседжаньнях мясцкому прымаюцца простай большасьцю галасоў.

§ 22. Усім сваім паседжаньням мясцком вядзе пратаколы за подпісамі старшыні і сакратара.

Копіі пратаколу мясцкому, не пазьней 3-х дзён перадаюцца вышэйстаячаму камітэту саюзу, а таксама вывешываюцца ў установе на відным мейсцы.

УВАГА: 1. Пастановы мясцкому могуць быць абскарджаны заінтэрасаванай асобай у вышэйстаячую прафсаюзную арганізацыю.

2. Камітэт саюзу мае права адмяняць і спыняць рашэньні і дзейнічаньні мясцкому, якія разыходзяцца з рашэньнямі вышэйстаячых ворганаў саюзу, паведамляя мясцкому аб прычынах адмены, альбо прыастаноўкі і ў паасобных выпадках прапануе мясцкому пераглядзець сваё рашэньне.

§ 23. Арганізатары мясцкому па паасобным вучасткам сваей галіны работы прыцягваюць добраахвотны актыў.

На чале кожнага вучастку работы стаіць арганізатар з складу добраахвотнікаў.

Пэрсанальны склад гэтых арганізатараў-добраахвотнікаў зацьверджаецца мясцкомам.

§ 24. Арганізатары паасобных вучасткаў работы на паседжаньнях мясцкому робяць па пытаньням працы свайго вучастку даклады, інструктуюць і склікаюць нарады кіраўнікоў ніжэйстаячых саюзных зьвеньняў, ставяць перад імі ўсе пытаньні работы свайго вучастку, дабіваючыся іх развязваньня і нясуць поўную адказнасьць за работу свайго вучастку.

§ 25. Пры мясцовым камітэце арганізуюцца брыгады з пераменным складам, у залежнасьці ад задач па правядзеньню аснаўных масавых кампаній у дапамогу мясцоваму камітэту.

§ 26. Мясцовы камітэт па меры патрэбы паасобным пытаньням стварае ЧКК на падставе існуючага палжэньня УсеЦСПС аб ЧКК і ЧРКК.

§ 27. У буйных установах, якія маюць у сваім складзе сэктары, аддзелы кіраўніцтва, дзеля непасрэднага ўдзелу ў іх вытворчай працы, мясцовы камітэт абірае профбюро, дзейнічаючае на падставе палажэньня, зацьверджэнага ЦП Саюзу на тэрмін поўнамоцтваў мясцкому.

§ 28. У кожный паасобнай вытворчай групе, незалежна ад колькасьці, мясцком абірае групавых арганізатараў (групоргі) на тэрмін поўнамоцтваў мясцкому.

§ 29. Пры мясцовым камітэце, пад кіраўніцтвам старшыні, альбо сакратара, арганізуюцца камісіі праверкі выкананьня з пераменным складам.

### V. Сродкі Мясцкому

§ 30. Сродкі мясцкому складаюцца з адлічэньняў адміністрацыі установы, ў разьмеры, устаноўленым калектыўным дагаворам з ўсей зарплаты работнікаў установы.

§ 31. Адлічэньні мясцкому вытвараюцца адміністрацыяй кожны месяц адначасова ў

тэрміны, установленыя для выплаты зарплаты работнікам установы.

§ 32. Мясцовы камітэт расходвае свае сродкі пад кантролям адпаведнага камітэту саюзу, на падставе зацьверджанага каштарысу і адчытваецца перад агульным сходам альбо канфэрэнцыяй членаў саюзу сваей установы і камітэтам саюзу.

§ 33. Мясцком утрымоўваецца за кошт сродкаў, атрымоўваемых ад адміністрацыі установы. Азначанымі у § 30 сумамі пакрываюцца ўсе выдаткі на ўтрыманьне мясцкому ўключая ўплату работнікаў па найму і адказных работнікаў, аслабаненых ад работы ў установе згодна § § 13 і 14 гэтага палажэньня.

§ 34. Адміністрацыя ўстановы павінна прадставіць мясцкому: неа ходнае памяшканьне з усім абсталяваньнем, апалам і асьвятленьнем дзеля заняткаў мясцкому і агульных сходаў аб'яднаемых мясцкомам работнікаў.

### VI Справаводзтва і справаздачнасьць.

§ 35. Справаводзтва і справаздачнасьць вядуцца мясцкомам па формам, установленым вышэйстаячым камітэтам саюзу.

§ 36. Мясцком абавязан у установленыя тэрміны па формам камітэту саюзу прадставляць у саюз і вывешваць дзеля ведама работнікаў установы справаздачы аб сваей дзейнасьці і фінансавыя справаздачы.

§ 37. Мясцком мае сваю пячатку і штамп па ўзору, установленаму камітэтам саюзу.

### VII. Рэвізыя спраў мясцкому.

§ 38. Адначасова з выбарам мясцкому, для рэвізіі адміністрацыйна-гаспадарчай і фінансавай дзейнасьці мясцкому, абіраецца рэвізыйная камісія ў складзе 3 членаў і 2 кандыдатаў.

Рэвізыйная камісія абіраецца на тэрмін поўнамоцтваў мясцкому.

§ 39 Рэвізыйная камісія ня менш аднаго разу ў месяц правярае адміністрацыйна-гаспадарчую і фінансавую работу мясцкому і дае сваё заключэньне па сутнасьці выдаткаў і фінансавым справаздачам мясцкому.

§ 40. Рэвізыйная камісія падсправаздачна агульнаму сходу работнікаў даннай установы і вышэйстаячаму камітэту саюзу. Свае даклады, акты і заключэньні рэвізыйная камісія ставіць на разгляд агульных сходаў і ў копіях перадае камітэту саюзу.

### VIII. Парадак ліквідацыі спраў мясцкому.

§ 41 У выпадку ліквідацыі мясцкому, ўсе яго справы, маемасьць, сродкі і пячатка перадаюцца адпаведнаму камітэту саюзу.

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## аб раёнынх камітэтах саюзу і раённых мясцовых камітэтах.

### А. Выбары РК РМК.

1. Дзеля аб'яднаньня і кіраўніцтва дзейнасьцю нізавых саюзных ворганоў ў раене, ў раенных цэнтрах, пры наяўнасьці 250 членаў саюзу і вышэй і 2-3-х самастойных установ арганізуюцца раенныя камітэты саюзу (райкомы).

Пры колькасьці членаў саюзу да 250 чал. у раенных цэнтрах на базе РВК арганізуюцца раенныя мясцовыя камітэты (раймясцкомы), аб'ядноўчыя як паасобныя невялікія калектывы, так і паасобных членаў саюзу.

2. Райкомы і Раймясцкомы, акрамя мясцкомаў і профупаўнаважаных, знаходзячыхся у раенных цэнтрах, аб"яднаюць і кіруюць працай сельмясцкомаў і сельупаўнаважаных, знаходзячыхся на тэрыторыі раену іх дзейнасьці.

3. Райкомы і раймясцкомы абіраюцца простай большасьцю галасоў на раенных канфэрэнцыях членаў саюзу на 1 год.

4. Акрамя выбараў на канфэрэнцыю, парадак і колькасьць членаў райкома і раймясцкома устанаўльваецца адпаведным рэспубліканскім, абласным, краявым камітэтам саюзу.

5. Выбарная канфэрэнцыя лічыцца сапраўднай пры ўмове, калі на ей прадстаўлена ня менш 2/3 усіх працуючых членаў саюзу данага раену.

6. Адначасова з выбарам райкому і раймясцкому на той жа тэрмін (1 год) для рэвізіі адміністрацыйна-гаспадарчай і фінансавай дзейнасьці РК і РМК абіраецца рэвізыйная камісія ў складзе 3-х членаў і 2-х кандыдатаў да іх, дзейнічаючая на падставе асобнага палажэньня. У РК і РМК, а таксама у рэвкамісію могуць быць абраны толькі члены саюзу.

7. У выпадку неправідловых выбараў, па запатрабаваньню 1/3 аб'яднаемых РК і РМК членаў саюзу, па запатрабаваньні рэвізыйнай камісіі, зацьверджанаму вышэйшым саюзным ворганам, або па прапанове вышэйстаячага камітэту саюзу, можа быць пастаўлена пытаньне аб датэрміновых выбарах РК і РМК, альбо паасобных яго членаў.

8. Стары склад РК і РМК у 3-х дзенны тэрмін, пры ўдзеле новага і старага складу рэвізыйнай камісіі перадае справы, маемасьць і сродкі новаму складу РК, РМК, афармляючы перадачу адпаведным актам. Копіі актаў накіроўваюцца у вышэйстаячы кам тэт саюзу.

### Б. Задачы РК і РМК.

9. Асноўнымі задачамі райкому і раймясцкому на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва і пасьпяховага выкананьня

перавыкананьня народна-гаспадарчых плянаў зьяўляецца:

а) арганізацыя работнікаў раенных устаноў і мабілізацыя іх увагі і ініцыятывы на выкананьне дырэктыў партыі і ураду,на справу хутчэйшага выкананьня і перавыкананьня вытворча-гаспадарчых задач, якія стаяць перад дзяржаўнымі і грамадзкімі ўстановамі даннаго раену, ўдзеляя асобую ўвагу правядзеньню клясавай палітыкі партыі і ураду на весцы і аказвая практычную дапамогу гаспадворганам у справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі, работы РВК і сельсаветаў, унядрэньні рэвалюцыйнай законнасьці на весцы і г. д.

б) Арганізацыя палітыкаасьветнай і культурна выхаваўчай работы сярод работнікаў аб"яднаемых калектываў, а таксама дапамога і садзейнічаньне рабоце саюзу МТС і батракоў і інш. саюзаў, зьвязаных з вескай.

в) Ахова матар'яльных і прававых інтарэсаў работнікаў, аб'яднаемых калектываў ахова іх працы, абслугоўваньне іх культурных і бытавых патрэб праз арганізацыю шэрагу культустаноў (клюбы, чырвоныя куткі, хаты-чытальні, бібліатэкі) аказаньне лячэбнай і курортна- санаторнай дапамогі, арганізацыя сталовак, ЗРК, жывелагадоўчых і малочных саўгасаў, дзетустаноў (яслі, пляцоўкі і г. д.).

10. З гэтай мэтай РК і РМК праз аб'яднаемыя мясцкомы, сельмясцкомы, проф. і сельупаўнаважаных:

а) мабілізуюць усіх працуючых у ўстановах на правядзеньне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній (пазыкі, пасеўная ўборачная, хлебанарыхтоўчая і інш) арганізуюць абмеркаваньні кантрольных лічбаў і плянаў, а таксама арганізуюць сустрэчныя пляны і кантрольныя цыфры, заслухоўваюць даклады гаспадарнікаў намячаюць і ажыцьцяўляюць практычныя мерапрыемствы, накіраваныя ў дапамогу рабоце хозворганаў.

б) Арганізуюць культурнавыхаваўчую працу сярод работнікаў аб'яднаемых устаноў, разьвіваюць іх клясавую самасьвядомасьць, шляхам арганізацыі і пашырэньня сеткі культурных устаноў (клюбы, чырвоныя куткі, хаты-чытальні, бібліатэкі і г. д.) дакладаў, лекцый, гурткоў, а таксама арганізуюць і прадастаўляюць членам саюзу культурны адпачынак і разумныя забавы (сямейныя вечары, спектаклі, экскурсіі і г. д.)

в) Заключаюць колумовы, арганізуюць усебаковае абслугоўваньне членаў саюзу у частцы аховы іх працы і абароны прававых інтэрэсаў, наглядаюць за правідловасьцю найму і звальненьня работнікаў.

г) Прымаюць захады да урэгуліраваньня узьнікаючых у ўстановах канфліктаў, дэлегіруя сваіх прадстаўнікоў у якасьці

рабочай часткі РКК у асобныя ўстановы, якія ня маюць саюзнай арганізацыі, прыцягваюць аднача́сова ў склад РКК маючагася ў гэтых установах профуапўнаважанага.

УВАГА: У ўстановах, аб'ядна́емых РК і РМК, якія маюць самастойныя мясцкомы, рабочая частка РКК выдзеляецца мясцкомам даннай установы.

д) Праз аб'ядна́емыя мясцкомы арганізуюць бытавое абслугоўваньне членаў саюзу, шляхам арганізацыі сталовых, кооперат ываў, прыгараднай, гароднай і жывёлагадоўчай гаспадаркі, абслугоўваюць лячэбнай дапамогай і накіроўваюць членаў саюзу у дамы адпачынку і санаторыі.

11. РК і РМК ажыцьцяўляюць прадстаўніцтва саюзу і аб'ядна́емых работнікаў у гаспадарчых, дзяржаўных і міжсаюзных органах.

12. Арганізуюць раённыя і вытворчыя канфэрэнцыі, зьлёты ўдарнікаў і г. д.

13. Арганізуюць і кіруюць аб'ядна́емымі саюзнымі ячэйкамі, сацыялістычным спаборніцтвам, ударніцтвам і прэміраваньнем лепшых ударнікаў-перадавікоў.

14. Арганізуюць шэфскую работу над вёскай, паасобнымі калгасамі і саўгасамі.

15. Арганізуюць удзел новых ячэяк саюзу ў склікаемых саюзнымі і міжсаюзнымі органамі зьездаў і канфэрэнцый.

16. Арганізуе нізавыя ячэйкі ў тых установах і вёсках дзе па існуючай саюзнай структуры яны павінны існаваць.

17. Кіруюць усей дзейнасьцю нізавых саюзных ячэяк, уваходзячых у РК і КМК (мясцком, профкамісіі пры кіраўніцтвах міліцыі, сельскія проф. і сельупаўнаважаныя) і адказваюць за правільнае ажыцьцяўленьне пастаўленых перад імі палітычных задач, для чаго;

а) Даюць ім адпаведныя ўказаньні, як пісьмовыя, гэтак галоўным чынам шляхам пасылкі сваіх працаўнікоў на мейсцы і аказваюць ім жывую практычную дапамогу.

б) Склікаюць па розным пытаньням нарады работнікаў нізваых профячэяк.

в) Адмяняюць і прыастанаўліваюць неправільныя і супярэчачыя статуту і рашэньням вышэйстаячых органаў пастановы.

г) Склікаюць па паасобным сёлам і установам сходы работнікаў і пасылаюць сваіх прадстаўнікоў для правядзеньня гэтых сходаў і нарад.

д) Кіруюць перавыбарамі нізавых ячэяк, прымаюць і праводзяць усялякія іншыя меры, выцькаючыя з пункту 17 гэтага палажэньня.

18. Уцягваюць у саюз новых членаў, афармляюць і выдаюць членскія кніжкі, а таксама выключаюць з членаў саюзу, на падставе разьдзелу IV статуту

н/саюзу і інструкцыі вышэйшых саюзных ворганаў.

19. Арганізуюць збор профсаюзных членскіх узносаў і забясьпечваюць сваечасовы перавод іх вышэйшаму саюзнаму воргану (ЦК), а таксама збор іншых паступленьняў, прылічваючыхся РК, РМК, разьмяркоўваюць і расходуюць іх у межах каштарысу, ўстаноўленага і зацьверджанага вышэйшым саюзным камітэтам.

20. Арганізуюць саюзныя касы узаемадапамогі.

21. Справаводства, справаздачнасьць і рахункаводства РК і РМК вядуць па ўстаноўленай саюзнай форме.

### Парадак дзейнасьці РК РМК.

22. Райком і Раймясцком з свайго асяродку абіраюць старшыню, сакратара і скарбніка і разьмяркоўваюць абавязкі сярод астатніх членаў РК і РМК з такім разрахункам, каб забясьпечыць кіраўніцтвам асноўныя вучасткі профсаюзнай працы.

1. Вытворча-плянавую і зарплаты.
2. Арг. інструктарскую.
3. Сацыяльна-бытавую.
4. Снабжэньне коопэрацыі і грамадзкага харчаваньня.
5. Кадры.
6. Агіт-масавую працу на вёсцы.
7. інфармацыйную.
8. Культурна-выхаваўчую.

23. У РМК з невялікай колькасьцю (да 100 чал.) можа быць выдзелена менш 8 арганізатараў па паасобным вучасткам працы, шляхам аб'яднаньня адным арганізатарам ня больш двух галін работы.

24. Вакол арганізатараў ствараюцца групы добраахвотніцкага актыву з ліку членаў саюзу па ўсім астатнім відам работы, працуючыя пад кіраўніцтвам арганізатараў РК і РМК.

25. РК і РМК аб'ядноючыя некалькі асобных установ і сельскомаў арганізуюць таксама ў сябе інструктароў, працуючых па грамадзкай працы, выкарыстоўвая іх для абслугоўваньня асобных МК і сель МК.

26. Уся праца РК і РМК вядзецца ўсім яго складам, адказным за усю яго работу і ніводнае важнейшае мерапрыемства ня можа быць ажыцьцяўлена без абмеркаваньня і рашэньня пытаньня на паседжаньнях РК і РМК.

27. РК і РМК склікаюць свае паседжаньні рэгулярна ў устаноўлены РК і РМ час, але ня менш двух раз у месяц.

Экстрэнныя паседжаньні РК і РМК склікаюцца старшыней, альбо сакратаром па меры патрэбнасьці, а таксама па запатрабаваньню вышэйстаячага саюзнага воргану альбо рэвізыйнай камісіі РК і РМК.

28. Пастановай РК і РМК моґуць быць абскарджаны зацікаўленымі членамі саюзу перад вышэйшым саюзным ворганам, альбо перад раённай канфэрэнцыяй.

УВАГА: Вышэйстаячы камітэт саюзу карыстецца правам: а) адмены і прыастанаўленьня неправільнага рашэньня РК і РМК, разыходзячагася з рашэньнямі вышэйстаячых саюзных органаў і стаячых саюзных РК і РМК перапапа новы РК і РМК пераглядзець свае пастановы.

29 Вышейшым саюзным органам на тэрыторыі раёну зьяўляецца раённая канфэрэнцыя.

Канфэрэнцыя склікаецца ня менш 1 разу у чатыры месяцы з дэлегатаў, абіраемых кожны раз паасобна, служачымі вёсак і установ, аб'яднаемых РК і РМК па ўстаноўленай саюзнай норме

Канфэрэнцыя заслухоўвае:

а) Даклады кіраўнікоў дзяржаўных установ органаў РСІ і інш.

б) Абмяркоўвае справаздачы РК і РМК аб яго дзейнасьці, дзейнасьці саюзных арганізацый, рашэньняў зьездаў, пленумаў і г. д., разглядае і зацьвярджае пляны працы, кашторысаў, фінансавыя справаздачы РК і РМК, пытаньні выключэньня з саюзаў, скаргі на дзейнічаньні РК і РМК, абірае РК і РМК і рэвізыйную камісію, а таксама дэлегатаў на зьезды, канфэрэнцыі і г. д.

УВАГА: 1. Па прапанове вышейстаячага камітэту саюзу, а таксама па запатрабаваньням $^1/_3$ членаў саюзу, склікаэцца экстрэнная канфэрэнцыя раней устаноўленага тэрміну.

2. Канфэрэнцыя абірае з свайго складу прэзыдыум, зацьверджае парадак дню і пратакол.

30. Ня менш аднаго разу ў месяц РК і РМК склікаюць агульныя сходы аб'яднаемых работнікаў раённага цэнтру на абмеркаваньні якіх ставіць найбольш важныя пытаньні бягучага жыцьця саюзнай дзейнасьці.

У прамяжуткі паміж сходамі раённага цэнтру МК і РМК упаўнаважаныя склікаюць агульныя сходы і вытворчыя нарады па паасобным установам дзе абмяркоўваюць пытаньні вытворчага характару данай пастановы, а таксама мясцовыя і агульнасаюзныя.

31. Ня менш аднаго разу ў месяц, маючыяся у паасобным мясцох селькомы (сельупаўнаважаныя) і аб'яднаючыя групы сельсаветаў (куставыя селькомы) склікаюць сходы аб'яднаемых груп работнікаў, на якіх абмяркоўваюць пытаньні бягучай работы масавых кампаній, саюзнай работы.

На гэтыя сходы РК і РМК, як правіла пасылаюць сваіх прадстаўнікоў.

### Фінансы РК і РМК.

32. Райком сваіх сродкаў ня мае, ўсю працу праводзіць на сродкі, адпускаемыя па кашторысу, зацьверджанаму адпаведным рэспубліканскім, абл., краевым камітэтам саюзу.

33. Сродкі, адпускаемыя на ўтрыманьне райкому уклю

чаюцца ў каштарыс адпаведнага рэсп. абл. краяв. камітэту саюзу.

34. Сродкі раймясцкому складаюцца з 1% адлічэньня адміністрацыйна-гаспадарчых ворганаў на утрыманьне ўсіх нізавых ячэяк раёну.

УВАГА: Пры раймясцкоме цэнтралізуюцца ўсе адлічэньні на культработу, ў гым ліку і 1% адлічэньня ад зарплаты работнікаў міліцыі.

35. З гэтых сродкаў Раймясцком адлічае:

а) 25% у цэнтралізаваным арадку ЦК Саюзу.

б) На вядзеньне культработы ясцкому ўстановы раённага энтру, а таксама профкамінм раённых устаноў міліцыі, па зацьверджанаму раймясцкомам каштарысу.

в) Астатнія сродкі выдаткоўваюцца на вядзеньня усей культработы раймясцкомам у ўстановах, не маючых самастойнай саюзнай арганізацыі, а таксама на культурную работу селькомаў і сельупаўнаважаных.

36. Агульны каштарыс раймясцкому зацьверджаецца адпаведным рэспубліканскім, абластным, краявым камітэтам саюзу.

37. Нормы і колькасьць вызваленых работнікаў райкому і раймясцкому ўстанаўльваюцца адпаведным камітэтам саюзу (рэспубліканскім, абластным, краявым) на падставе рашэньняў I-га Усесаюзнага Зьезду СРДУ.

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## аб структуры саюзных ворганаў ва ўстановах аб'ядноемых саюзам работнікаў Дзяржустаноў.

(Зацьверджана прэзыдыумам ЦК СРДУ 15/VI-1931 г. і ўзгоднена з УсеЦСПС—18/VII-1931 г.)

1. Вышэйшым саюзным ворнам ва установе зьяўляецца льны сход, альбо канфэрэнця членаў саюзу.

. Агульныя канфэрэнцыі аноў склікаюцца ва ўстано-, якія налічваюць больш членаў саюзу.

. Агульны сход, альбо агульканфэрэнцыі устаноў, дзеазвязаньня гаспадарча-пачных і саюзных пытаньняў склікаюцца мясцкомамі па меры патрэбы, але ня менш аднаго разу ў 3 месяцы, альбо па затрэбаваньню 1/3 членаў саюзу, працуючых ва ўстанове.

4. Выбары дэлегатаў на канфэрэнцыю вытвараюцца на агульных сходах прафгрупы па нормам, устаноўленым мясцкомам.

5. У кожнай установе, налічваючай ня менш 25 працуючых членаў саюзу, арганізуецца

Мясцком, выбары якога вытвараюцца на агульным сходзе членаў саюзу данай установы, а ва ўстановах, якія налічваюць звыш 500 членаў саюзу на сходах па аддзелам, часткам, сэктарам і г. д., шляхам простых выбараў з зацьверджаньнем на агульнай канфэрэнцыі устаноў.

6. У МК устаноў Прэзыдымы МК не абіраюцца, за выключэньнем буйнейшіх МК (ВСНГ СССР, РСФСР, Дзяржплян СССР, дзе пленум МК абірае прэзыдыум),

7. Мясцовы камітэт склікае па меры патрэбы, але на менш аднаго разу ў квартал, агульную вытворчую нараду установы.

8. Ва ўстановах, ў якіх налічваецца менш 25 працуючых, абіраецца прафсаюзны упаўнаважны (профупаўнаважаны). Гэтыя установы могуць аб'яднацца групамі камітэтамі, дзейнічаючымі на падставе асобнага палажэньня.

9. Мясцком абірае з свайго складу старшыню, сакратара скарбніка і вызначае для арганізацыі і кіраўніцтва па паасобным галінам работы 9 арганізатараў:

1) Па арганізацыйнай рабоце 2) па вытворчасці, плянаваньню, ён-жа старшыня вытворчай нарады; 3) па зарплаце і нарміраваньню; 4) па сацыяльна-бытавой; 5) снабжэньню, коопэрацыі і грамадзкаму харчаваньню; 6) па кадрам; 7) агітмасавай рабоце і рабоце на вёсцы; 8) па інфармацыйнай рабоце і вучоту і 9) культарганізатар, ён-жа старшыня Культпалітсавету.

**А. Па пытаньнях Аргработы.**

а) Арганізацыя работы профворганаў ва ўстанове і інструктаж.

б) Падрыхтоўка розных агульных сходаў і канфэрэнцый. Праверка і арганізацыя выкананьня.

в) Саюзнае членства.

г) Арганізацыя работы па перавыбарам профворганаў ва ўстанове, выбары на саюзныя і міжсаюзныя зьезды і канфэрэнцыі.

д) Вучот і абмен вопытам саюзнай работы.

е) Вучот нізавога саюзнага активу, нагляд за правідловым яго выкарыстаньнем і вучот выконваемай ім работы.

**Б. Па пытаньням вытворчасьці плянаваньня.**

а) Арганізацыя сустрэчнага пляну і праверка яго выкананьня (зьмяншэньне адміністрацыйна-упраўленчаскіх выдаткаў).

б) вытворчыя нарады (падрыхтоўка, скліканьне і кантроль за правядзеньнем у жыцьце іх рашэньняў).

в) рацыяналізатарская работа і барацьба за якасьць працы;

г) унутрыустаноўчае плянаваньне і гаспадарчы разрахунак;

д) мабілізацыя унутраных рэсурсаў і барацьба са стратамі;

е) вынаходзтва і рабочыя прапановы,

ж) арганізацыя, вучот і пытаньні канкрэтнага кіраўніцтва соцспаборніцтвам і ударніцтвам (арганізацыйныя пытаньні, распрацоўка канкрэтных паказчыкаў на падставе вытворчых заданьняў, кантроль за выкананьнем соцдагавору і г. д.);

з) чыстка дзяржапарату і рабочыя шэфства над дзяржапаратам.

### В. Па пытаньням зарплаты нарміраваньня.

а) Пытаньні зарплаты і нарміраваньня, стымуляваньня ўзросту вытворчасьці работы, шляхам унядрэньня прынцыпу зьдзельнай і заахвочваючай сыстэмы аплаты труда;

б) перазаключэньня колумоў. Арганізацыя паступленьня прапаноў. Кантроль за выкананьем колумоў і кодэксу законаў аб труду. Пытаньні арганізацыі труда. Бесперапынка;

в) Трудавая дысцыпліна. Канфліктна-прававая работа. Кіраўніцтва і дапамога РКК. Дапамога ў рабоце вытворча-таварыскіх судоў.

### Г. Па пытаньнем Сацыяльна-бытавой работы.

а) Ахова труда.

б) Водпускі.

в) Соцстрахаваньне і ахова здароўя.

г) Жыльлевыя пытаньні.

д) Камунальна-бытавыя пытаньні.

е) Дзетсады, яслі, пляцоўкі.

ж) Кіраўніцтва касамі ўзаемадапамогі.

### Д. Па пытаньням снабжэньня, коопэрацыі, грамадзкага харчаваньня.

а) Дапамога і грамадзкі кантроль за работай коопэрацыі (ЦРК і ЗРК).

б) Грамадзкае харчаваньне.

в) Работа коопбюро і лавачнай камісіі.

г) Снабжэньне, коопэрываньне і паенакапленьне.

д) Прыгарадная гаспадарка (гародніцтва, жывёлагадоўчыя і малочныя саўгасы).

### Е. Па пытаньням кадраў.

а) Плянаваньне і падрыхтоўка рабочай сілы, школы ШКМП і канторуч.

б) Пытаньні найму і звальненьня.

в) Падрыхтоўка ў Рабфакі, тэхнікумы, ВНУ і ВНТЗ.

г) Падвышэньне кваліфікацыі, масавая профтэхасьвета.

д) Выкарыстаньне спэцыялістых і практыкантаў.

е) Вылучэньне і прасоўваньне.

ж) Броня падлеткаў,

з) Соцсумясьціцельства.

і) Падрыхтоўка профсаюзных кадраў.

к) Палітэхнізацыя школы.

### Ж. Агітмасавая работа.

а) Арганізацыя і правядзеньне масавых гасп. паліт. кампаній, мабілізацыі мас на выкананьне колькасных і якасных паказчыкаў плянаў.

б) Агітацыйна-растлумачальная работа па пытаньням міжнародных здарэньняў, гаспадарчае і культурнае будаўніцтва СССР.

в) Агітработа па соцспаборніцтву і ударніцтву (паказ і прапаганда лепшых узораў работы і г. д.).

г) Работа з новымі кадрамі.

д) Работа з чужаземнымі рабочымі.

е) Работа з жанчынамі і моладзьдзю.

ж) Масавая работа па чыстцы і шэфству над дзяржапаратам.

з) Ваенная прапаганда і шэфства над Чырвонай Арміяй

і) Работа з добраахвотнымі вобчаствамі (МОПР, П/Дзяцей)

к) Інтэрнацыянальная работа

### З. Па інформрабоце і вучоту

а) Інфармацыя } па інстр. ЦК.
б) Статыстыка }

### 1. Культарганізатар.

а) Ліквідацыя непісьменнасьці і ўсеабуч.

б) Самаадукацыя.

в) Масавая палітпрафасьвета.

г) Бібліатэчная работа, друк і радыёвешчаньне.

д) Антырэлігійная работа.

е) Мастацкая работа і самадзейнасьць.

ж) Сацыяльнае выхаваньне і праца з дзецьмі і піанерамі.

з) Дапамога добраахвотным таварыствам ОДН, ОДР.

На падставе асобных палажэньняў працуюць:

а) РКК.

б) Бюро фізкультуры.

в) Культпалітасьвет.

г) Касы Узаемадапамогі.

д) Шэфскія таварыствы над вёскай.

10. Кожны арганізатар мясцкому па па асобным вучасткам сваей галіны работы, прыцягвае добраахвотны актыў.

Ва главе кожнай групы стаіць арганізатар са складу добраахвотнікаў.

Пэрсанальны склад гэтых арганізатараў добраахвотнікаў зацьвярджаецца мясцкомам.

11. Арганізатары паасобных вучасткаў работы на паседжаньнях Мясцкому робяць даклады па пытаньням работы свайго вучастку, інструктыруюць і склікаюць нарады кіраўнікоў ніжэйстаячых саюзных зьвеньняў, ставяць перад імі усе пытаньні работы свайго вучастку, дабіваюцца іх разьвязаньня і нясуць поўную адказнасьць за работу свайго вучастку.

12. Адначасова для рэвізыі адміністрацыйна-гаспадарчай і фінансавай работы, абіраецца рэвізыйная камісія, працуючая на падставе асобнага палажэньня.

## Структура Профбюро.

1. Вышэйшым саюзным ворганам у аддзеле, сэктары, кіраўніцтве зьяўляецца агульны сход членаў саюзу данага калектыву, склікаемы ня менш аднаго разу у месяц.

2. У кожным аддзеле, сэктары, упраўл., налічваючым 25 сяброў саюзу і больш, ствараюцца профбюро, абіраемыя на агульным сходзе членаў саюзу. У аддзеле і ўпраўленьні з меншай колькасьцю сяброў саюзу абіраецц профупаўнаважаны.

3. Пры профбюро арганізуецца:

а) вытворчая нарада на чале са старшыней вытворчай нарады з ліку членаў профбюро, альбо вытворчая канфэрэнцыя, склікаемыя па меры патрэбы, але ня менш аднаго разу ў месяц.

б) Вытворчая нарада служачых вядучых прафэсіюй (паасобна па кожнай прафэсыі) на чале з арганізатарам вытворчай нарады.

4. Профбюро абірае са свайго складу старшыню і вызначае па прыклду МК таксама 8 арганізатараў.

УВАГА: У профбюро з невялікай колькасьцю работнікаў па рашэньню мясцком у можа быць выдзелена не 8 арганізатараў а менш. У гэтых выпадках аб'яднаюцца наступныя вучасткі работы: соцбытработа з работай коопэрацыі, снабжэньня і грамадзкага харчаваньня, агітмасавая з культработай.

5. Арганізатары Профбюро зьвязваюцца з адпаведнымі арганізатарамі масцкому і прыцягваюць да сваей работы групы добраахвотнага актыву па паасобным вучасткам работы.

6. Арганізатары профбюро па прыкладу мясцкому, ў залежнасьці ад аб'ему і характару работы кіраўніцтва, сэктару, аддзелу, ствараюць сталыя вучасткі з кіраўнікамі гэтых вучасткаў з добраахвотніцкга актыву, зацьверджаемымі профбюро.

7. Пры профбюро працуюць, на падставе асобных палжэньняў, упаўнаважаныя кас узаемадапамогі і ЧКК, ствараемыя профбюро па меры патрэбы.

8. Пры профбюро рэўкамісіі не арганізуюцца.

Профбюро свайго каштарысу і сродкаў ня мае, усе выдаткі па культмасавай вытворчай і сацыяльна-бытавой работы уключаюцца у каштарыс МК.

9. Пры разглядзе у РКК заяў працаўнікоў, аб'яднаемых профбюро, у якасьці прадстаўніка рабочай часткі РКК выступае прадстаўнік профбюро.

## Структура Профгрупы.

1. Первічнай арганізацыяй профсаюзу ва ўстанове зьяўляецца ячэйка саюзу первічнай вытворчай групы, зьвяза-

ная паміж сабой адным вытворчым працэсам. (Экспэдыцыя, плянавыя і статыстычныя групы па паасобным відам работы канцэлярыі РВК, інформчастка, гасп. частка і г. д.

2. Вышэйшым саюзным органам у групе зьяўляецца агульны сход сяброў саюзу групы.

3. Агульны сход профгрупы абірае з свайго асяродку групавога арганізатара (профгрупорг), які кіруе і арганізуе профпрацу сваей саюзнай групы.

4. У профгрупе працуе групавая вытворчая нарада, на чале са старшыней вытворчай нарады, абіраемым на вытворчай нарадзе, склікаемай па меры патрэбы.

5. Профгрупорг прыцягвае да сваей працы арганізатараў добраахвотнікаў па паасобным вучасткам профпрацы (ліквідацыя няпісьменнасьці, барацьба з прагуламі, з цякучасьцю рабсілы, па вынаходзтву, па соцспаборніцтву, распаўсюджваньні друку, па саюзнаму членству, соцбытавому абслугоўваньню і г. д.

Колькасьць гэтых арганізатараў-добраахвотнікаў апрадзяляецца ў залежнасьці ад колькаснага складу групы.

6. На агульным групавым сходзе абіраецца зборшчык сяброўскіх узносаў, зацьверджаемы профбюро, а дзе няма гэткага—мясцкомам.

---

Галаўлітбел № 2815 945—400 Друк. Мен. Фабр.-прац. Калёніі